Асамблея
няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў

# Маніторынг

## выкананьня беларускімі ўладамі прапановаў эўрапейскіх структураў у сфэры нармалізацыі стану няўрадавых арганізацыяў і свабоды асацыяцыяў

**Падрыхтавана Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі**

Пэрыяд маніторынгу: 25.03.2009 - 24.06.2009
(прамежкавая справаздача №3)

**У пэрыяд маніторынгу зафіксавана значнае пагаршэньне сытуацыі з рэгістрацыяй новых грамадзкіх аб'яднаньняў: агульная колькасьць новазарэгістраваных арганізацыяў зьменшылася ў параўнаньні з папярэднімі гадамі, а шэрагу вядомым незарэгістраваным грамадзкім арганізацыям і дзьвюм партыям было адмоўлена ў рэгістрацыі на нязначных альбо сумнеўных падставах. Парлямант прыступіў да разгляду законапраекту, які скіравны на яшчэ большае пагаршэньне ўмоваў рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў і палітычных партыяў праз пашырэньне магчымых падставаў для адмовы ў рэгістрацыі. Структуры грамадзянскай супольнасьці як і раней маюць складанасьці з арэндай памяшканьняў для штодзённай дзейнасьці альбо правядзеньня асобных мерапрыемстваў. У траўні 2009 году быў упершыню з красавіка 2008 года вынесены абвінаваўчы прысуд паводле артыкулу 193.1 за дзейнасьць у складзе незарэгістраванага грамадзкага аб'яднаньня.**

## 1. Рыхтуюцца зьмены ў занадаўства аб рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў і партыяў

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу прыступіла да разгляду праекта закона "О внесении изменений и дополнений в некоторые законы Республики Беларусь по вопросам осуществления административных процедур", якім, сярод іншага, прадугледжваецца ўнясеньне зьменаў у палажэньні Закону "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях" і Закону "Аб палітычных партыях", датычныя працэдуры рэгістрацыі. Насуперак паведамленьням дзяржаўных мэдыяў, гэты законапраект не толькі не спрашчае працэдуру рэгістрацыі, а нават пагаршае становішча праз істотнае пашырэньне магчымых падставаў для адмовы ў рэгістрацыі.

У цэлым прапанаваныя зьмены скіраваныя на прывядзеньне заканадаўства ў адпаведжнасьць з існуючай практыкай вынясеньня адвольных адмоваў у рэгістрацыі на нязначных падставах для тых аб'яднаньняў, легалізацыя якіх зьяўляецца непажаданай для ўладаў. У дзеючай рэдакцыі, Закон "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях" прадугледжвае адмову ў рэгістрацыі толькі ў тых выпадках, калі зафіксаваныя ў статуце мэты, задачы, мэтады альбо тэрыторыя дзейнасьці аб'яднаньня не адпавядаюць заканадаўству. Іншыя недахопы могуць трактавацца як выпраўляльныя і ня могуць зьяўляцца падставай для адмовы. Прапанаваная новая рэдакцыя прадугледжвае, што падставай для адмовы будуць і хібы ў любых іншых палажэньнях статута ці нават любых іншых дакумэнтах, пададзеных на рэгістрацыю (зьвесткі пра заснавальнікаў, графічная схема арганізацыйных структураў, дакумэнт аб аплаце, абвесткі за рэгістрацыю ў газэце ці інш.). Прапанаваная рэдакцыя фактычна пазбаўляе сэнсу паняцьце выпраўленьня недахопаў у пададзеных на рэгістрацыю дакумэнтах.

Спрашчэньне працэдуры пастаноўкі на падаткавы ўлік і на ўлік у іншых органах для новазарэгістраваных аб'яднаньняў сапраўды ёсьць пазытыўнай зьменай, аднак гэта ніякім чынам не датычыцца павелічэньня магчымасьцяў для рэгістрацыі. Іншыя нязначныя зьмены ў закон носяць выключна тэхнічны характар, але нават яны ня могуць разглядацца як скіраваныя на спрашчэньне працэдуры рэгістрацыі. Напрыклад, ад ініцыятыўных групаў па стварэньні аб'яднаньняў прапануецца апроч статута аб'яднаньня на паперы прадставіць і ягоную лічбавую вэрсію. Нельга выключаць, што гэта палажэньне законапраекту можа выклікаць фактычную перарэгістрацыю існых аб'яднаньняў, паколькі лічбавая вэрсія статута імі раней не прадстаўлялася.

Апублікаваная вэрсія законапраекту зьяўляецца папярэдняй, аднак наўрад ці ад беларускіх парлямантароў варта чакаць яе канцэптуальнага зьмяненьня. Некаторыя з вынесеных увесну адмоваў у рэгістрацыі фактычна ўжо адбываліся з выкарыстаньнем палажэньняў яшчэ не прынятага законапраекту. Гэта датычыцца пашырэньня падставаў для адмовы, а таксама выкарыстаньня ў дачыненьні да Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя працэдуры "прыпыненьня рэгістрацыі", якая не прадугледжаная дзеючай рэдакцыяй закона.

## 2. Крымінальная адказнасьць за дзейнасьць незарэгістраваных аб'яднаньняў

Сымбалічным знакам заканчэньня нядоўгага пэрыяду спадзяваньняў на паляпшэньне прававога клімату для грамадзкіх аб'яднаньняў стала вяртаньне да практыкі выкарыстаньня артыкула 193.1 Крымінальнага кодэксу. У траўні 2009 году ў Гомелі за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі быў асуджаны Андрэй Несьцяровіч, пры гэтым да яго была адразу ўжытая амністыя і за краты ён ня трапіў. Прысуд паводле артыкулу 193.1 быў вынесены ўпершыню з красавіка 2008 года. Гэта ўжо сямнаццаты чалавек, асуджаны паводле гэтага артыкулу.

## 3. Рэгістрацыя аб'яднаньняў

Прыканцы 2008 году, пасьля рэгістрацыі ПАГА "Рух "За Свабоду" сярод структураў грамадзянскай супольнасьці паўстала асьцярожнае спадзяваньне на магчымую рэгістрацыю іншых грамадзкіх аб'яднаньняў і партыяў. Адразу некалькі арганізацыяў распачалі падрыхтоўку ўстаноўчых сходаў. Але прайшло паўгады, і практычна ніхто зь незалежных грамадзкіх аб'яднаньняў альбо палітычных партыяў не здолеў атрымаць рэгістрацыю, сутыкнуўшыся са звыклымі адмовамі.

Міністэрствам юстыцыі былі вынесеныя адмовы ў рэгістрацыі на заявы, якія падавалі Асамблея няўрадавых дэмакратычных аб'яднаньняў, Партыя Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, Партыя Свабоды і Прагрэсу (чацьвертая спроба рэгістрацыі ад 2003 году), Грамадзкае праваабарончае аб'яднаньне "Наша Вясна" (другая спроба рэгістрацыі за 2009 год), Моладзевае асьветніцкае грамадзкае аб'яднаньне «Моладзевая хрысьціянка-сацыяльная садружнасьць «Маладыя дэмакраты», Моладзевае грамадзкае аб'яднаньне "Маладыя сацыял-дэмакраты-Маладая грамада". Ня стала лепшай і сытуацыя на ўзроўні лякальных арганізацыяў - Праваабарончае грамадзкае аб'яднаньне "Берасцейская Вясна" трэці раз на працягу 2009 года атрымала адмову ў рэгістрацыі.

Падставы для адмовы ў рэгістрацыі найбольш красамоўна могуць быць праілюстраваныя адмовай у рэгістрацыі Гарадзенскаму абласному аддзяленьню Партыі БНФ і Гарадзенскаму абласному аддзяленьню Грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне". Ім было адмоўлена на той падставе, што пададзеныя на рэгістрацыю дакумэнты былі выкананыя неналежным памерам друкаванага шрыфта, хоць заканадаўства не вызначае ніякіх адмысловых нормаў для гэтага (шрыфт быў дастатковая вялікі і ў цэлым стандартны).

Усе скаргі на рашэньні аб адмове ў рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў былі адхіленыя судовымі інстанцыямі. Таксама суды пацьвердзілі адмовы ў рэгістрацыі шэрагу першасных аддзяленьняў прафсаюзу працаўнікоў радыёэлектроннай прамысловасьці (у тым ліку ў Гомелі, Віцебску і Магілёве). Справы аб скаргах на адмову ў рэгістрацыі Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, Грамадзкага праваабарончага аб'яднаньня "Наша Вясна" знаходзяцца на момант падрыхтоўкі гэтага дакумэнту на разглядзе ў Вярхоўным судзе, а справа Праваабарончага грамадзкага аб'яднаньня "Берасцейская Вясна" абскарджваецца ў Берасьцейскім абласным судзе. 22 красавіка 2009 году Вярхоўны суд не задаволіў скаргу сузаснавальнікаў "Нашай Вясны" на папярэднюю адмову ў рэгістрацыі.

У чэрвені 2009 году аптымізм, народжаны рэгістрацыяй "Руху "За Свабоду", аказаўся вычарпаны. Зарэгістраваць новае грамадзкае аб'яднаньне ў Беларусі цяпер не прасьцей, чым было раней, а новыя палітычныя партыі не рэгіструюцца ў Беларусі з 2000 году.

Некаторыя няўрадавыя арганізацыі (напрыклад, моладзевая арганізацыя "Правы Альянс", якая беспасьпяхова спрабавала зарэгістравацца ў 2004 годзе) ня маючы надзеі зарэгістравацца ў выглядзе аб'яднаньня, рэгіструюцца ў выглядзе "ўстановы" (для іх цяпер створаны заяўляльны парадак рэгістрацыі). Але гэтая арганізацыйная форма не належыць да асацыяцыяў і не дазваляе карыстацца многімі правамі грамадзкіх аб'яднаньняў (прадстаўляць інтарэсы грамадзянаў у судзе, вылучаць назіральнікаў на выбары і сябраў выбарчых камісіяў, прэтэндаваць на дзяржаўную фінансавую падтрымку).

Паводле статыстычнай справаздачы міністэрства юстыцыі, за першыя тры месяцы 2009 года органамі юстыцыі былі зарэгістраваныя 14 новых грамадзкіх аб'яднаньняў (у тым ліку 5 рэспубліканскіх і 9 мясцовых), а таксама 3 новых фонды (у тым ліку 1 міжнародны і 2 мясцовыя). За гэты ж пэрыяд былі зарэгістраваныя альбо пастаўленыя на ўлік 144 новыя арганізацыйныя структуры прафэсійных саюзаў, 1190 арганізацыйных структураў іншых грамадзкіх аб'яднаньняў, 4 новыя арганізацыйныя структуры палітычных партыяў. Аднак, гэтыя паказчыкі зусім ня сьведчаць пра павелічэньне колькасьці рэгістрацыяў. У 2008 і, нават, у 2007 гадах лічбы былі заўважна вышэйшыя. Мяркуючы з наяўнай сытуацыі, колькасьць новых зарэгістраваных грамадзкіх аб'яднаньняў у 2009 годзе будзе найменшай за апошнія тры гады. Падобна, што закрыцьцё "акна магчымасьцяў" для легалізацыі новых аб'яднаньняў выклікана набліжэньнем кампаніі выбараў прэзыдэнта, што традыцыйна суправаджаецца ў Беларусі павелічэньнем ціску на структуры грамадзянскай супольнасьці.

## 4. Папярэджаньні, праверкі ды іншыя санкцыі

Нягледзячы на абвешчаны ў сьнежні 2008 году мараторый на праверкі дзейнасьці юрыдычных асобаў усіх відаў, шмат якія грамадзкія аб'яднаньні пакутуюць ад праверак з боку разнастайных кантрольных органаў. У траўні 2009 года на падставе абвінавачаньня ў падатковых парушэньнях быў накладзены штаф у памеры 14 мільёнаў рублёў (больш чым 5 тысяч даляраў) на Грамадзкае аб'яднаньне "Экадом", банкаўскі рахунак гэтай арганізацыі быў замарожаны. У тым ліку былі спагнаныя на карысьць дзяржавы ахвяраваньні, атрыманыя арганізацыяй. Цяпер аб'яднаньне абскарджвае эканамічныя санкцыі.

## 5. Выкананьні рэкамэндацыяў Камітэту ААН па правах чалавека

У красавіку 2009 года праваабаронца Алесь Бяляцкі, які зьяўляецца старшынём Рады ліквідаванага ў 2003 г. Грамадзкага аб’яднаньня “Праваабарончы цэнтар “Вясна”, атрымаў адказ на свой зварот зь Міністэрства замежных справаў. Праваабаронца зьвяртаўся ў МЗС за тлумачэннямі наконт таго, якія меры былі прынятыя міністэрствам дзеля выкананьня Меркавання Камітэта па правах чалавека ААН у сувязі са скасаваннем рэгістрацыі “Вясны”. 24 ліпеня 2007 г. Камітэт па правах чалавека ААН ухваліў Меркаваньні датычна гэтага індывідуальнага звароту (нумар паведамленьня 1296/2004 г.) і выявіў парушэньне Беларусьсю артыкула 22, пункта 1 Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Камітэт прыйшоў да высновы, што паводле артыкулу 2, пункт 3(а) Пакту, аўтар і суаўтары скаргі маюць права на адпаведныя сродкі прававой абароны, якія ўключаюць у сябе перарэгістрацыю “Вясны” і кампэнсацыю. У адказе за подпісам намесьніка міністра замежных справаў паведамляецца, што беларускі бок разглядае рашэньні Камітэту па правах чалавека ААН як рэкамэндацыйныя і не абавязковыя для выкананьня. Такім чынам, беларускі бок не зьбіраецца выконваць рашэньні Камітэту па пытаньнях парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі.

## 6. Доступ да памяшканьняў

На працягу траўня 2009 году працягваліся пагрозы скасаваньня дамовы арэнды на памяшканьне, якое займае Партыя БНФ. Арэндадаўца памяшканьня (дзяржаўная служба) выказваў незадаволенасьць сваечасовасьцю аплаты арэнды. Дамова на арэнду офісу, паводле арэндадаўцы, працягвацца ня будзе, і перад гэтай партыяй стаіць пагроза пазбаўленьня юрыдычнага адрасу, што верагодна пацягне за сабой страту рэгістрацыі.

Барысаўскае аддзяленьне грамадзкага аб’яднаньня “Дзеці ў бядзе” у красавіку 2009 года было вымушанае спыніць сваю дзейнасьць праз немагчымасьць аплочваць арэнду памяшканьня камунальнай уласнасьці. Шматлікія звароты дабрачыннай арганізацыі ў мясцовыя органы ўлады з просьбай прадаставіць ільготную стаўку арэнды не прывялі да посьпеху.

## 7. Перашкоды ў правядзеньні ўстаноўчых сходаў ды іншых мерапрыемстваў

У траўні 2009 году ў Менску адбыліся чарговыя зьезды Беларускай асацыяцыі журналістаў і апазыцыйнай Партыі камуністаў Беларускай. 20 чэрвеня 2009 года ў Менску быў праведзены “Пашыраны сход сябраў Партыі БНФ”, а таксама “Сход прыхільнікаў эўрапейскага шляху разьвіцьця для Беларусі”. Аргкамітэт V Зьезду беларусаў свету, што плянуецца Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” на 18-19 ліпеня 2009 года, паведаміў, што такіх цяжкасьцяў у пошуку памяшканьня для зьезду арганізатары ня мелі яшчэ ніколі. Арганізатары атрымалі 19 адмоваў і не выключалі, што з’езд прыйдзецца праводзіць за мяжой. Але, урэшце рэшт, памяшканьне было прадастаўлена са згоды Менскага гарвыканкаму. У той жа час, шмат якія зарэгістраваныя аб’яднаньні і групы дзеля стварэньня новых аб’яднаньняў маюць цяжкасьці з пошукам дастаткова ўмяшчальных заляў для правядзеньня сходаў.

Грамадзкае праваабарончае аб’яднаньне “Наша Вясна” сутыкнулася зь цяжкасьцямі ў пошуку памяшканьня для свайго чарговага ўстаноўчага сходу прыканцы красавіка 2009 году: фактычна ўсе арганізацыі, да якіх зьвярнуліся заснавальнікі “Нашай Вясны” з просьбай прадаставіць у арэнду памяшканьне для правядзеньня устаноўчага сходу аб’яднаньня, праваабаронцам адмовілі. У выніку сваё ўстаноўчае мерапрыемства заснавальнікі “Нашай Вясны” былі вымушаныя правесьці ў офісе Партыі БНФ.

На цяжкасьці ў правядзеньні ўстаноўчага мерапрыемства скардзіцца і ініцыятыўная група па аднаўленьні Беларускай Партыі Працы, ліквідаванай у 2004 годзе.

Прадстаўнікі непрызнанай уладамі часткі Саюзу палякаў на Беларусі намагаліся прыняць удзел у паседжаньні па вылучэньні дэлегатаў на зьезд гэтага аб’яднаньня, які ладзіца праўладнай часткай Саюза палякаў (адбывалася ў Горадні). Аднак, улады не дапусьцілі іх на гэтае мерапрыемства.

Улады Горадні не дазволілі суполцы прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці правесьці пікет, запланаваны на 3 красавіка 2009 года.